З дасье. Ігар Жалязоўскі нарадзіўся 1 ліпеня 1963 г. у Оршы. Жанаты. Мае сына Ягора. Жыве ў Мінску. Капітан Узброеных Сіл. Пяціразовы чэмпіён свету ў спрынтэрскім мнагаборстве.

Двухразовы ўладальнік Кубка свету (1991, 1992 гг.).

Любімая дыстанцыя — 1.000 метраў.




*Ігар ЖАЛЯЗОЎСКІ:*

# «Я ВЕРУ Ў СВАЮ АЛІМПІЯДУ»

**Ігар Жалязоўскі, напэўна, адзін з нямногіх канькабежцаў, якому ўдаецца ўжо на працягу сямі гадоў трымаць сябе ў форме і прыцягваць увагу мільёнаў аматараў спорту. Праўда, нягледзячы на такі вялізны поспех (пяць залатых медалёў чэмпіёна свету ў мнагаборстве), ён не стаў самым шчаслівым чалавекам на Зямлі і не ператварыўся ў «змагара» за льготы для сябе. За тое, што ён аддаў Радзіме, яна паказвае яму пакуль фігуру з трох пальцаў (за перамогу на апошнім чэмпіянаце свету ў Осла Жалязоўскі ад Дзяржспорту (СНД ці РБ) не атрымаў ні капейкі). Ён застаецца спакойным. У рэшце рэшт у яго ёсць свой гонар, сваё «я», што для яго не пусты гук. І гатовы пакуль яшчэ выступаць. У саставе зборнай Беларусі.**

**— Ігар, спачатку дазвольце павіншаваць вас з чарговым залатым медалём на чэмпіянаце свету. Пасля Нарвегіі некаторыя спартыўныя спецыялісты зрабілі вывад, што вы выйгралі толькі дзякуючы таму, што там не выступаў ваш асноўны сапернік Уве Май?**

— Ну, я не думаю, што гэта так. Проста ёсць людзі, якія ці наогул не разбіраюцца ў спорце, ці вельмі далёкія ад яго. Яны не бачаць і не ведаюць Мая. У немца гэты год быў самы слабы. Яго задача была іншая — паспяхова выступіць на Алімпійскіх гульнях.

Ды і да таго ж у яго цяпер ёсць іншая справа — маркетынг. Цяпер ён будзе зарабляць намнога больш, чым на каньках.

**— Напэўна, Уве нямала зарабляў у спорце. А вы неяк сказалі, што «канькамі капіталу не заробіш — толькі тытулы».**

— Гэта на самай справе так. Канькабежны спорт — гэта не тэніс і не шахматы, дзе можна зарабляць шмат грошай. І мне вось цяпер, каб заняцца якой-небудзь справай пасля заканчэння спартыўнай кар'еры, патрэбны пачатковы капітал, і немалы. Але ў мяне яго няма. Не накапіў, таму што няма з чаго.

**— А чым бы вы хацелі заняцца? Прадбачу, што не трэнерскай працай?**

— Не, калі б былі адпаведныя адносіны да майго віду спорту, я хацеў бы папрацаваць трэнерам у Беларусі.

**— А за мяжой вам нічога не свеціць?**

— Магло б быць ужо і так, што я там і працаваў бы. Адна галандская фірма прапанoўвала работу. Але я хачу яшчэ некалькі гадоў павыступаць, а там будзе бачна.

**— Ігар, вам ужо 29, і як бы ні хацелася, але спорт давядзецца пакінуць...**

— Выступлю яшчэ на чэмпіянаце свету і на Алімпіядзе ў Лілехамеры, і ўсё — канькі на цвік.

**— Але вы ўжо бегаеце без усялякага задавальнення?**

— Так. Канькі ўжо не прыносяць мне столькі радасці, як раней. Тады было ўсё цікава. А якія эмоцыі! А цяпер я пасталеў, стаміўся ад спорту. З'явіліся іншыя інтарэсы, ды і жыццё стала зусім іншым. А калі я быў маладым, што мне было яшчэ рабіць, як не бегаць.

**— А што за злы рок праследуе вас на Алімпіядах? Можа, які-небудзь чорны кот дарогу паспявае перабегчы?**

— Думаю, што справа тут не ў каце. Проста ў кожнага чалавека свой лёс. У мяне ён таксама ёсць. Усё ідзе добра, а як пачынаецца Алімпіяда, і нават дзён за 10 да пачатку гульняў, усё валіцца з рук. Не ідзе лёд — і ўсё тут.

Напэўна, я ніколі не выйграю Алімпійскія гульні. І ўсё ж, спадзяюся, што ў Лілехамеры ў наступным годзе ўсё будзе нармальна, хоць я ніколі не ставіўся так да Алімпіяды, як да чэмпіянату свету. Апошняму я чамусьці заўсёды аддаваў перавагу. Мне больш падабаецца, як гучыць тытул: «чэмпіён свету».

**— У вас ёсць сябры ў спорце?**

— Не, сяброў няма. Каб сказаць, што нехта шчыры сябар... Сябар — гэта ж амаль як сваяк. З многімі спартсменамі я проста падтрымліваю добрыя адносіны. І з Джэнсенам, і з Кураівай, і з Маем.

**— А хто ваш кумір?**

— Эрык Хайдэн. Да Алімпіяды-80 у Лейк-Плэсідзе ён выйграваў усе чэмпіянаты свету. Для мяне амерыканец быў усім. Я і хварэў тады за яго, а не за нашых.

**— Пасля заканчэння сваёй спартыўнай кар'еры Хайдэн пайшоў, як і многія вядомыя заходнія спартсмены, у спартыўныя каментатары на Сі-бі-эс. А вы не хацелі б паспытаць сябе ў гэтай справе?**

— Не атрымаецца, таму што пакуль гэта нерэальна — у нас настолькі мала канькабежных спаборніцтваў, што і каменціраваць няма чаго.

**— Ігар, вы, напэўна, ніколі не забываеце, што з'яўляецеся капітанам былой Савецкай Арміі. Дарэчы, сваю першую перамогу вы атрымалі напярэдадні 23 лютага.**

— Я ўжо дакладна не памятаю, якога чысла гэта было, але недзе ў свята. Мы тады былі ў Галандыі. Няблага адзначылі гэтае свята. Нашы жанчыны павіншавалі нас, падарункі купілі, накрылі святочны стол. Праўда, гэта было крыху не так, як дома, дзе перамогі і святы адзначаліся з гарэлкай і шампанскім.

**— А як усё ж дома?**

— Цяпер не так, як раней, амаль ніяк. Пасля чэмпіянату свету мяне заўсёды чакае жонка Таіса. Яна адказная за стол і ўсё астатняе. Прыходзяць сябры. Святкую, як дзень нараджэння.

**— А за мяжой?**

— Заўсёды пасля заканчэння спаборніцтваў банкеты. Хоць раней нашых спартсменаў і «прыціскалі» крыху. Цяпер намнoга прасцей стала. Чалавек зрабіў сваю справу — яму патрэбна свабода. Заўсёды віно. Гледзячы якая краіна, хто чырвонае, хто белае, хто проста шампанскае! Мне падабаюцца шатландскія віскі і чырвонае віно.

**— У вас ёсць машына?**

— Так, «Таёта». Я купіў яе ў Японіі. Хоць па мне ўсе маркі добрыя. Любая машына, калі новая — добрая. А ўсе іншаземныя машыны тым больш. Асабліва японскія.

Раней была «Волга». Я яе прадаў. Гады тры назад напісаў заяву на машыну. Але пакуль глуха. Я не буду прасіць, і не буду хадзіць. Няхай усе гэтыя пытанні застануцца на сумленні нашага спорткамітэта. Я лічу, што нямала зрабіў для нашай рэспублікі. Крыўдна, канешне, што ў нас такія адносіны да спартсменаў. Таму я на ўсё гэта імкнуся не звяртаць ніякай увагі. Хоць іншы раз думаю: «Бегаеш-бегаеш, колькі сіл аддаеш, а табе раз-два — і фа».

Цікава, што з Беларусі я не атрымаў ніводнай машыны наогул. Але сёе-тое, праўда, выдзелілі. Неяк на пачатку маёй спартыўнай славы ад Беларускага спорткамітэта я атрымаў прэмію ў 29 рублёў. Мяне здзіўляюць такія адносіны. Добра ты выступіў, ці дрэнна — нуль увагі.

З кіраўніцтва Спорткамітэта ніхто за апошнія гады мяне нават не павіншаваў.

**— Так і хочацца сказаць: за дзяржаву крыўдна. А як вы з палітыкай?**

— Я вельмі перажываю тое, што адбываецца ў нас у былым Савецкім Саюзе. Народ падманвалі, падманваюць і далей будуць падманваць.

**— Вам сімпатызуе хто-небудзь з эсэндэўскіх апекуноў, напрыклад Ельцын?**

— Не. І Ельцын мне не падабаецца. Асабліва пасля таго, як страшна павысіў цэны і назваў іх свабоднымі. А нашы ўсё падтрымліваюць. Беларусь наогул ніколі, на мой погляд, не вызначалася самастойнасцю.

**— А калі б Жалязоўскі стаў дэпутатам, што-небудзь бы змянілася да лепшага?**

— Я ім ніколі не стаў бы, ды і што толку. У «вярхах» жа аднаму супраць усіх змагацца дарэмна.

**— Так, з палітыкамі змагацца цяжка, а як вам удаецца вырашаць усе пытанні ў сям'і? Раскажыце пра яе.**

— Жонка цяпер не працуе. Сын Ягор. Калі пажаніліся, у жонкі была дачка. Цяпер яна ў трэцім класе.

**— Ягор не збіраецца пайсці татавай дарогай?**

—Ды няхай ідзе куды захоча. Гэта яго справа. Чаму ён павінен ісці за мной? Будзе расці, убачыць, што навокал. А я, калі спатрэбіцца, буду дапамагаць яму.

**— Ігар, вам часта даводзіцца быць у ад'ездзе. Трэба не толькі самому падрыхтаваць канькі, але і прыгатаваць паесці. Напэўна, у вас ёсць нейкая любімая страва, якая-небудзь вельмі экзатычная?**

— Ды не. Я больш люблю што-небудзь звычайнае: свініну, ялавічыну, ад курыцы не адмоўлюся.

**— Аднак вы не захацелі скруціць галаву пеўню, калі неяк давялося з ім біцца. Можа, певень сам захацеў трапіць у суп да Жалязоўскага. «Відаць, не кожнай птушцы так пашанцуе», — думаў ён.**

— Можа, і так. Хоць пеўня я пашкадаваў, таму што не быў галодны (жарт). Выйшаў неяк з сябрам з пад'езда (яшчэ старой кватэры). Іду да машыны, а певень насустрач мне. І пачаў правяраць маю моц. Я пачаў ухіляцца ад блізкага бою, а сябар стаіць і рагоча. І пеўня баюся зачапіць. Думаю, стукну — заб'ю. Тады мне гаспадыня пеўня горла перагрызе. Таму давялося яго ўгаварыць на нічыю.

**— А сапернікаў на нічыю ўгаворваць не даводзіцца. У Лілехамеры вы ўгаворыце іх прайграць!..**

— Лілехамер, я думаю, — гэта ўжо ўсё. Думаю, што хопіць.

Я веру, што павінен выйграць, што я магу гэта зрабіць.

**Гутарыў Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



## Памяці сябра «Звязды»

Памёр пісьменнік Мікалай Іванавіч Гамолка. Яго прозвішча было добра вядома даўнім чытачам «Звязды», асабліва тым, хто спрабаваў свае сілы ў паэзіі і прозе. Мікола Іванавіч доўгія гады быў нашым літаратурным кансультантам.

Ён нарадзіўся ў 1922 годзе і раздзяліў лёс свайго пакалення, чыё юнацтва было аддадзена вайне. Пачынаў яе салдатам, а скончыў камандзірам роты. Затым франтавік прыйшоў у журналістыку, літаратуру: на яго ўласнай паліцы з'явіліся кнігі паэзіі і прозы «Зварот шчасця», «Лясная крэпасць», «Партызанскія сёстры», «Дзяўчынка ішла па вайне» і іншыя. З многімі аўтарскімі рукапісамі ён меў справу як першы чытач і рэцэнзент — і заўсёды імкнуўся спрыяць здольнасцям і талентам. Мы запомнім яго як шчырага, сціплага і душэўнага чалавека.

Звяздоўцы.

СУСТРЭЧЫ

# Як жывуць псіхічна хворыя ў ненармальным грамадстве

**Першы раз, яшчэ ў снежні мінулага года, я сам напрасіўся на сустрэчу з Яўгенам Зайцавым, тагачасным дырэктарам неўралагічнага дома-інтэрната № 2. Потым, праўда, каяўся. І не дзіва: спачатку з добрую гадзіну блукаў па Дражні, шукаючы забыты Богам і людзьмі казённы дом, ды і першыя ўражанні ад яго былі далёка не лепшымі. Яшчэ на парозе тхнула цяжкім, застаялым паветрам. Адразу за дзвярыма— людзі, многа людзей, якія бессэнсоўна снoўдаюць сюды-туды альбо сядзяць у крэслах.**

Псіханеўралагічны дом-інтэрнат № 2 — адна з трох устаноў падобнага тыпу на ўвесь Мінск, дзве з якіх прызначаны для дарослых, а трэцяя — для дзяцей. Тры інтэрнаты на амаль двухмільённы горад — мізэр. Дзіка, але не прыходзіцца здзіўляцца, таму, што перш чым трапіць сюды на лячэнне, хворыя мусяць стаць на чаргу ў гарсабесе і чакаць. Колькі? А да таго часу, пакуль не вызваліцца для яго месца. У снежні 1991-га, на чарзе ў другі інтэрнат, разлічаны на 230 ложка-месцаў, стаялі 57 хворых. А хворым дзеткам свайго «зорнага часу» даводзіцца чакаць па два гады. Сюды цяжка трапіць — і немагчыма адсюль выйсці. Толькі смерць вызваляе месцы, якія ніколі не пустуюць. Хоць бываюць і выключэнні: летась, напрыклад, 5 чалавек па стану здароўя пакінулі гэтыя сцены.

Аднак не ўсе хранічныя псіхічнахворыя становяцца на чаргу ў неўралагічны дом-інтэрнат. І не толькі таму, што многія жыллёвыя ўмовы дазваляюць утрымліваць хворых сваякоў дома. Як ні дзіка гэта прагучыць, але многія карыстаюцца імі як залатой жылай: за пражыванне хворага ў сям'і ёй даецца права на пазачарговую ўстаноўку тэлефона, пашырэнне жылплошчы, ды і пенсіі намнога ўзраслі. Некаторыя такія «прадпрымальнікі» карыстаюцца момантам і льготамі хворага сваяка, а потым здаюць яго, нікoлькі не клапоцячыся пра вынікі, у звычайную бальніцу. Змяшчаць хворых у дом-інтэрнат, аказваецца, нявыгадна: сям'я імгненна пазбаўляецца ўсіх ільгот. А бальніцы, каб хоць трохі збіць гэтую дзікую хвалю, пасля месяца ўтрымання псіхічна хворага за далейшае яго знаходжанне там мусяць браць грошы.

Што і казаць, гутарка пачалася з самага набалелага. Нават успамін пра святкаванне 30-гадовага юбілею інтэрната не змяніў характару гаворкі. Гэта толькі абвастрыла пачуццё жалю да хворых, жыццё якіх для нас — цёмны лес. І неяк само сабой узнікла жаданне прайсціся па інтэрнаце, паглядзець на людзей, якіх мы пагардліва называем «псіхамі». Таму, напэўна, што амаль нічога пра іх не ведаем.

...У памяшканнях панавала не такая ўжо бязгусціца, якой можна было чакаць тут. Вазоны, «мяккія куткі», тэлевізары, як і ў любой кватэры — на падлозе дарожкі, а сцены ўвешаны малюнкамі і рэпрадукцыямі.

І не такая ўжо бяздзейнасць тут была, як думалася спачатку. Спусціўшыся ў падвальныя памяшканні, зусім нечаканым было ўбачыць тут лазню, цырульню, майстэрню, кіназалу, дзе па аўторках хворыя могуць глядзець кінафільмы. І не нейкія там дапатопныя, а свежыя. У некалькіх невялічкіх пакоях працавалі хворыя, балазе 20 працэнтаў з 230 — працаздольныя. Адны клеілі цукерачныя каробкі для «Камунаркі», іншыя ўпакоўвалі іх, а хто мог, той займаўся зборкай аконных жалюзі і разетак для кааператыва. У снежні за гэтую работу хворыя атрымалі па 200—300 рублёў.

Працягвалася наша гутарка ўжо ў дырэктарскім кабінеце. Ясна, што тэма гаворкі— усё тыя ж праблемы, якія літаральна захліснулі інтэрнат. Дзякуй Богу, улады хоць грошы выдзяляюць (бюджэт на 1991 год склаў 1 млн. 200 тыс. рублёў), дапамагаюць набыць (хоць і ў мізэрнай колькасці) сякі-такі інвентар, безумоўна, не лепшай якасці, а тое, чым нармальныя людзі не могуць ды і не хочуць карыстацца. Ліміты — жабрацкія. Выдзеленай фарбы, шкла хапае ненамнога. А дзе даставаць гаруча-змазачныя матэрыялы, дэталі да трох дапатопных машын «хуткай дапамогі», эксплуатацыя якіх цалкам ляжыць на інтэрнаце?

З цяжкім асадкам на душы і цэлым ахапкам нявырашаных праблем я пакідаў тады неўралагічны дом-інтэрнат № 2. Але хада падзей вымагала новай сустрэчы, але справы не зрушыліся ў лепшы бок. Яўген Зайцаў пасля трох з палавінай гадоў дырэктарства вярнуўся на сваё непасрэднае месца ўрача. Часткова палепшылася праблема з медперсаналам: заробак з 550 рублёў у снежні мінулага года з 1 сакавіка узрос у 1,5 раза. Бюджэт на 1992 год склаў ужо 6 млн. 300 тыс. рублёў.

Але праблемы засталіся ранейшымі. Больш таго — набылі жахлівыя памеры. Ліміты на гаруча-змазачныя матэрыялы ў параўнанні з мінулым годам скараціліся на 4 працэнты. Ліміты на адзенне, абсталяванне і ўсё астатняе задавальняюцца толькі на 30—40 працэнтаў.

Усе мы людзі. І псіхічна хворыя — таксама людзі. Яны не вінаватыя ў тым, што прырода іх абдзяліла. Ясна: цяжка нам. Аднак ім намнога цяжэй: яны не могуць пастаяць за сябе, тым больш у грамадстве, дзе пануе закон джунгляў. Няўжо наша ненармальнае грамадства можа кінуць гэтых людзей на волю лёсу?..

Ці будзем мы тады людзьмі...

**Юрый ДУБІНА.**

## Фільмы тыдня

● «ЦАР ІВАН ГРОЗНЫ»
● «ВЯРНІЦЕ МАЮ СКУРУ (ХТО ВЫ, МУЖЧЫНА АБО ЖАНЧЫНА!)»
● «РЫЦАР-АДЗІНОЧКА»
● «СЯМЕЙНАЯ СПРАВА»

Новую каляровую двухсерыйную мастацкую кінастужку «ЦАР ІВАН ГРОЗНЫ» перадае на суд гледачоў студыя «Ціскіно». Сцэнарый яе напісалі Валянцін Яжоў і Генадзь Васільеў, рэжысёр — Генадзь Васільеў. Фільм зняты па матывах шырокавядомай аповесці А. К. Талстога «Князь Сярэбраны» і апавядае пра трагічныя падзеі эпохі царствавання на Русі Іаана IV, названага сучаснікамі Іванам Грозным за яго крывавыя і страшэнныя справы.

Карціна вызначаецца яркасцю кінаапавядання, пастановачным размахам, а таксама ўдзелам у ёй цудоўных акцёраў — Кахі Каўсадзе, Ігара Талькова, Станіслава Любшына, Уладзіміра Антоніка, Ларысы Татуновай, Андрэя Сакалова, Стэфаніі Станюты і многіх іншых. У час 44-га міжнароднага кінафестывалю ў Кане стужка сабрала мноства добрых водгукаў у французскай прэсе і прыцягнула ўвагу як гледачоў, так і дасведчанай крытыкі.

***

Французскімі кінамайстрамі створана каляровая мастацкая кінастужка з незвычайнай назвай «ВЯРНІЦЕ МАЮ СКУРУ (ХТО ВЫ, МУЖЧЫНА АБО ЖАНЧЫНА?)». Яе паставіў рэжысёр Патрык Шульман па свайму сцэнарыю.

...Героі фільма, Марыя і Жан-П'ер, зусім незнаёмыя адзін аднаму. І вось з імі адбываецца неверагоднае здарэнне — яны становяцца ахвярамі сучаснай вядзьмаркі. У выніку чараўніцтва Марыя і Жан-П'ер прымаюць аблічча адзін аднаго — яна становіцца мужчынам, а ён — жанчынай. І пайшла неразбярыха камічных сітуацый і здарэнняў! Але асабліва вострa перад імі паўстае праблема узаемаадносін са сваімі каханымі. Вось ужо сапраўды і смех, і слёзы...

Гледачы атрымліваюць асалоду ад сапраўды французскага гумару і цудоўнага выканання Эрыка Колена, Марыо д'Альбы, Алена Фліка і іншых акцёраў.

***

...У сярэдневяковым Кітаі існуе таварыства «Белы лотас». У яго ёсць заклятый вораг — магутны вяльможа па імені Чорны Тыгр. Пасля вераломнага здрадніцтва таварыства разбіта, але тыя, хто застаўся, клянуцца адпомсціць ворагу. Адолець Чорнага Тыгра, аказваецца, могуць толькі пяць рыцараў, майстроў старажытнай кітайскай барацьбы кун-фу. І вось да мацнейшага з іх, рыцара Яна Дусіна па мянушцы «Адзіночка», звяртаюцца за дапамогай... Аб тым, што адбылося далей, гледачы даведаюцца, паглядзеўшы каляровую кітайскую мастацкую кінакарціну «РЫЦАР-АДЗІНОЧКА» вытворчасці Шанхайскай кінастудыі (аўтар сцэнарыя — Лі Сяо, рэжысёр — Сой Вэйцзе).

Стужка вызначаецца напружанасцю, дынамічным сюжэтам, цудоўнымі пейзажамі старажытнага Кітая і, вядома ж, смяротнымі сутычкамі вялікіх майстроў кун-фу.

Асаблівы поспех фільму забяспечвае выдатнае выкананне занятых у ім акцёраў — Яна Мінцзяня, Чжао Цзыжуя, Чжоу Чжоу.

***

Змогуць паглядзець гледачы таксама каляровую амерыканскую мастацкую кінастужку «СЯМЕЙНАЯ СПРАВА». Аўтар сцэнарыя — Вінсент Патрык, рэжысёр — Сідней Люмет.

Фільм расказвае аб узаемаадносінах трох пакаленняў мужчын у адной амерыканскай сям'і, прычым псіхалагічны тон яго афарбаваны лёгкім гумарам і камізмам.

...Юны Эдам задумаў выгадную, але небяспечную справу — абрабаванне навуковага цэнтра, дзе распрацоўваецца адна каштоўная біялагічная праграма. Бацька Эдама, Віта, спачатку моцна сумняваўся ў добрым зыходзе гэтай акцыі. А вось дзед юнака, Джэсі, з энтузіязмам адабрае план унука.





## РАДЫЁ

**13 мая**

Апошнія паведамленні: 6.00, 7.00, 10.00, 15.00, 20.00, 23.00.

7.00 — «Радыёфакт». 8.15 — «Дзелавы веснік: эканоміка і палітыка». 9.15 — «Сустрэчы сяброў». Перадача 1-я. 10.15 — У. Ягоўдзік. «Па старонках Вечнай кнігі». 11.30 — «Студыя «Ява». Тэмы тыдня. 13.00 — «У абедзенны перапынак». 14.00 — канцэртная праграма. 15.15 — іграе Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі. 17.00 — «Джаз-хваля». Музычная праграма. 18.00 — перадачы абласнога радыё. 19.00 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 19.45 — вячэрняя казка. 20.25. — А. Сульянаў. «Арыштаваць у Крамлі». 21.00 — А. Асіпенка. «Крык чайкі». Радыёпастаноўка. 21.30 — «Таполя на Лагойскім тракце». Нататкі В. Макарэвіча. 22.00 — «Кнігалюб». Радыёальманах. 23.10 — гуманітарна-інфармацыйны канал радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная». 0.00 — «Начны канал».

## ТЭЛЕБАЧАННЕ

**12 мая**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Мастак з Кунгура». Кінанарыс.
**9.00.** Тэлебачанне — школе. Беларуская мова. 1-ы клас.
**9.15—11.30.** «Запомніце мяне такой». Тэл. маст. фільм. 1-я і 2-я серыі.
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас.
**17.05.** Мультфільмы.
**18.00.** Тэл. дак. фільм «Дарога».
**18.25.** Студыя «Мэта». Праблемы выкладання гісторыі ў навучальных установах.
**19.00.** Абласныя навіны (Віцебск).
**19.10.** Наш каментарый.
**19.15.** Фільм-канцэрт.
**19.40.** Эканамічная хваля. Прыватызацыя дзяржаўнай маёмасці ў рэспубліцы. Прамая лінія.
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.25.** Тэлебіржа.
**21.40.** «Ціхмяныя могілкі». Маст. фільм.
**23.10.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** Мультфільмы.
**8.30.** «Прывал вандроўнікаў». Маст. фільм 1-я серыя.
**14.00.** Навіны.
**14.25.** Урокі Вольгі Івановай.
**14.40.** «Кватэра». Маст. фільм.
**15.55.** Мультфільм.
**16.15.** Дзіцячы музычны клуб «440 герц».
**17.00.** Навіны.
**17.20.** НЭП.
**17.50.** Футбольны агляд.
**18.20.** «Прывал вандроўнікаў» Маст. фільм. 1-я серыя.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** «Новая студыя» прадстаўляе: «Сітуацыя», «Мантаж», «Рэха», «АТБ-брокер».
**24.00—1.15.** «Кватэра». Маст фільм.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** Тэма з варыяцыямі. «Дзень нараджэння Расіні».
**8.05.** Французская мова. 1-ы год навучання.
**8.35.** Вольны час. «Кветкі ў доме».
**8.50.** Французская мова. 2-гі год навучання.
**9.20.** У свеце жывёл.
**10.20.** Белая варона.
**11.05.** Паралелі. «Метад Ельчанінава».
**11.50.** «Санта-Барбара». 42-я серыя.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00—13.20.** Весткі.
**15.00.** Там-там-навіны.
**15.15.** Педагогіка для ўсіх. «Звычайная школа ў спальным раёне».
**15.45.** Студыя «Рост», «Тон-лабірынт».
**16.15.** Прастора плюс.
**16.45.** Т. Ін. Ка.
**17.00.** «Шляхі і раздарожжы».
**17.45.** Праграма «Ключ».
**18.00.** Парламенцкі веснік.
**18.15.** Палітаддзел.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** «Санта-Барбара». 43-я серыя.
**20.20.** «Дрэздэн. Тры старонкі». Тэлефільм.
**20.30.** На рагу «Праўды» і Ямскога поля. «Руская культура— год за годам».
**20.45.** Тэатральны раз'езд. Дзве прэм'еры. Балеты «Руслан і Людміла» і «Травіята».
**22.00.** Весткі.
**22.25.** Спартыўная карусель.
**22.30—1.00.** «К-2» прадстаўляе: праграму «Наш год» і фільм-канцэрт А. Градскага.

**13 мая**

**Беларускае тэлебачанне**

**8.30.** Раніца рэспублікі.
**8.45.** «Карнавал у Венецыі». Кінанарыс.
**9.00.** Тэлебачанне—школе. Беларуская літаратура. 7-ы клас.
**9.30.** Студыя «Мэта». Літаратурны тэлечасопіс «Вобраз» (паўтор).
**16.30.** Навіны.
**16.35.** Для дзяцей. Г.-Х. Андэрсен. «Салавей». Спектакль Дзяржаўнага тэатра лялек Рэспублікі Беларусь.
**17.20.** Мультфільм.
**18.00.** «Свет у гліне». Кінанарыс.
**18.15.** Крэдыты і рынак. Пра дзейнасць Белпрамбудбанка.
**19.00.** Абласныя навіны (Гомель).
**19.10.** Наш каментарый.
**19.15.** Наша прозвішча — Кузняцовы. Перадача 1-я. Сямейны дзіцячы дом.
**19.50.** Фестываль мастацтваў «Мінская вясна».
**20.40.** Калыханка.
**21.00.** Панарама.
**21.30.** Фестываль мастацтваў «Мінская вясна».
**22.20.** Гандбол. Фінал кубка ІГФ.
**23.00.** НІКа.

**І канал. Астанкіна**

**5.00.** Раніца.
**7.35.** Мультфільм.
**7.45.** Дзіцячы музычны клуб «440 герц».
**8.30.** «Прывал вандроўнікаў». Маст. фільм. 2-я серыя.
**17.00.** Навіны.
**17.25.** Мультфільм.
**17.35.** Тэатр-92. «Науруз».
**18.35.** «Прывал вандроўнікаў». Маст. фільм. 2-я серыя.
**19.45.** Добрай ночы, малышы!
**20.00.** Навіны.
**20.40.** Тэма.
**21.25.** Фермата.
**21.55.** Тэл. знаёмства. Урмас От гутарыць з Я. К. Лігачовым.
**23.00.** Навіны.
**23.25.** Машына часу.
**0.30.** «Толькі ў мюзік-холе». Маст. фільм.

**Канал «Расія»**

**7.00.** Весткі.
**7.20.** «Чалавек-невідзімка». Ілюзіяністка Л. Рацыяні.
**7.35.** Мульці-пульці. «Каменная кветка».
**8.05.** Нямецкая мова. 1-ы год навучання.
**8.35.** Вольны час. «Дамашні клуб».
**8.50.** Нямецкая мова. 2-гі год навучання.
**9.20.** Мульці-пульці. «Верабейка».
**9.30.** Дзіцячая гадзіна (з урокам нямецкай мовы).
**10.30.** Рэтра. Вечар Мікалая Ніціцкага.
**11.20.** Руская мова.
**11.50.** «Санта-Барбара». 43-я серыя.
**12.40.** Сялянскае пытанне.
**13.00.** Весткі.
**15.00.** Там-там-навіны.
**15.15.** Перадача аб адкрыцці парку Еўра-Дыснейленд у Парыжы.
**16.15.** Тэлеагляд. «Далёкі Усход».
**17.00.** Т. Ін. Ка.
**17.15.** Белая варона. Дайджэст з лепшых перадач.
**18.00.** Чэмпіянат Расіі па футболу. «Асмарал» (Масква)—«Тарпеда» (Масква). 1-ы тайм.
**19.00.** Весткі.
**19.20.** Свята кожны дзень.
**19.30.** «Асмарал» (Масква)—«Тарпеда» (Масква). 2-гі тайм.
**20.15.** «РТР—год за два».
**20.55.** Без рэтушы. А. Папцоў у прэс-цэнтры «Рэспубліка».
**22.00.** Весткі.
**22.20.** На сесіі ВС Расійскай Федэрацыі.
**22.50.** Канцэрт Патрысіі Каас.

## СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ. СЁННЯ Ў НУМАРЫ

**«Паклон салдацкаму подзвігу».** Рэха свята.

**Пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.**

**«Рубель рублю не перашкаджае».** Гутарка са старшынёй Нацыянальнага банка С. Багданкевічам.

**«Майстэрства кіраваць».** Інтэрв'ю на актуальную тэму.

Канфліктная сітуацыя. **«Начальніцкая недатыкальнасць, або Ці мае рацыю той, у каго больш правоў?»**

Асабістая думка. **«Інерцыя і тармазы».**

**«Зялёная аптэка».**

Ёсць пытанне. **«Ці даляцім да сярэдзіны Дняпра».**

**«Абзац».**

**«Хакейны лік на футбольным полі».** Агляд.

**«Шчыгрынавая скура».** Артыкул супрацоўніка УУС Мінаблвыканкома Н. Фядотава.


Галоўны рэдактар
**У. Б. НАРКЕВІЧ.**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».**

*НАШ АДРАС: 220041, гор. Мінск, праспект Ф. Скарыны, 77, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 32-51-05, аддзела пісьмаў—32-04-52, 32-41-92, навін—32-15-02, даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-35-91.*

**ПА НУМАРУ ДЗЯЖУРЫЛІ:** член рэдакцыйнай калегіі Уладзімір Гойтан, намеснік адказнага сакратара Віктар Краўчанка, старшы карэктар Вікторыя Кляновік.

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.*

*Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Тыраж 81.098. Індэкс 63850.
Зак. № 90.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 21.05.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12